# ЖЭЎЖЫК

ЗАБАЎЛЯЛЬНЫ ЧАСОПІС ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ АД 6 ГОД | №2, красавік 2019



РЫХТУЕМСЯ ДА ВЯЛІКДНЯ!

# Вітаю, мае сябры!

Сколькі ж многа вас з'явілася пасля таго, як выйшаў першы нумар «Жэўжыка». Так што я не вытрымаў і яшчэ шпарчэй заспяшаўся на новую сустрэчу з вамі. Ды і нагода такая цудоўная ёсць! Хутка ўжо наступіць самае важнае веснавое свята – Вялікдзень.

А вы ведаеце, што ў Беларусі яго святкуюць нават двойчы? У гэтым годзе спачатку 21-га красавіка будуць радавацца Вялікадню (іначай яшчэ кажуць Светламу Хрыстоваму Уваскрасенню) каталікі, пратэстанты і ўніяты; а 28-га красавіка – праваслаўныя.

Свята гэтае вельмі старажытнае і цікавае. І нават мае ў нашых краях сваю адметнасць: на Вялікдзень адбываецца абрад валачобніцтва, блізкі да калядавання. Адкуль узялася такая сувязь? Пра гэта зможаце падрабязней даведацца ў рубрыцы «Падзея». А я пакуль паведамлю вам яшчэ трошкі цікавай інфармацыі пра Вялікдзень.

Ён настолькі важны, што да яго рыхтуюцца нават беларускія татары-мусульмане з горада Іўе (гэта іх неафіцыйная сталіца). Яны здавён пражываюць на нашых землях і з вялікай павагай ставяцца да беларускіх традыцый. І так павялося, што ўжо амаль 150 год іўеўскія татары за некалькі дзён да Вялікадня, як і хрысціяне, фарбуюць яйкі і рыхтуюць смачныя падарункі для дзетак, што прыйдуць іх віншаваць. І цікава, што адбываюцца такія наведванні з 5-й да 8-й гадзіны ранку ў пятніцу перад Вялікаднем.

Яшчэ хочацца прыгадаць, што казала пра Уваскрасенне Хрыстова мая прабабуля: «На Вялікання зрання сонца йграе! Пераліваецца ўсімі колерамі і скача...» Як такое можа быць? Беларусы лічылі гэты дзень настолькі ўрачыстым, што нават уся прырода радуецца яму. І калі на світанні выйсці на вуліцу і доўга глядзець на сонейка, то можна пабачыць, як яно рухаецца і свеціцца ўсімі колерамі вясёлкі. О, яшчэ прыгадваю, што мой дзядуля ўмываў усіх дзетак у сям'і чырвоным велікодным яечкам, памачыўшы яго ў вадзе. Каб усе былі прыгожыя, як тое яечка:)

Вось якія прыемныя ўспаміны звязаныя ў мяне з гэтым святам. Думаю, што такія традыцыі павінны быць у кожнай сям'і. Абавязкова паразмаўляй пра гэта са сваімі бацькамі, бабулямі і дзядулямі, прыгадайце, як святкавалі Вялікдзень у вашай мясцовасці. А пасля можаце напісаць пра гэта ў наш часопіс.

## Са святам вас!
## Хрыстос уваскрос!

# Сёння ў нумары:

Адкуль да нас прышлі валачобнікі даведаешся **на старонцы 4**, а што такое васолы, **на старонцы 5.**

З гэтага нумару пачне выходзіць новая рубрыка – «Слоўнік юнага дойліда» **(старонкі 6-7)**, дзе можна будзе пазнаёміцца з архітэктурнай спадчынай Беларусі. У рубрыцы «Невядомае пра ядомае» паспрабуем разам падрыхтавацца да Вялікадня. Хутчэй адкрывай **старонку 12!**

А ці ведаеш ты пра святочныя гульні з яйкамі? **На старонцы 14** ёсць такія. Хочаш даведацца працяг дэтэктыўнага коміксу? Ён чакае **на старонках 17-19.** А яшчэ ў часопісе шмат забавак: вялікі лабірынт, рэбусы і галаваломка, велікодныя знаходкі.






А вось і першыя лісты, што прыйшлі ад вас, мае сябры! Саша (9) і Янка (3) даслалі нам фотаздымкі падвясных птушак, зробленых паводле майстар-класа ў першым нумары.

З радасцю публікую іх у часопісе!



# Адкуль да нас прыйшлі валачобнікі?

Між Вялікаднем і Калядамі ў беларусаў існуе цікавая сувязь. Вы і самі можаце адзначыць, што абодва гэтыя святы хрысціянскія і яднае іх постаць Ісуса Хрыста. Ды гэта яшчэ не ўсё.

Узімку праходзяць вядомыя ўсім калядаванне і шчадраванне. А вось ці ведаеце, што на Вялікдзень таксама ходзяць ад хаты да хаты людзі з песнямі і віншаваннямі? Іх завуць валачобнікамі, а сам абрад – валачобніцтвам. А яшчэ менавіта на Каляды і Вялікдзень у беларускай хаце вешалі саламянага павука.



Фота з архіву СЭТ: валачобнкі

А склалася так вось чаму. Каляды і Вялікдзень з'явіліся яшчэ ў дахрысціянскія часы. Уявіце сабе, што калісьці нашыя продкі святкавалі Новы год... увесну! То бок Вялікдзень, можна так сказаць, быў першапачаткова вясеннім «Новым годам». Пазней жа на яго наклалася ўрачыстасць у гонар уваскрасення Ісуса Хрыста; а свята Новага году перанеслася бліжэй да зімовага сонцастаяння, то бок да сучасных Калядаў.



На фота: саламяны павук

Давайце яшчэ разбярэмся, чым жа розняцца валачобніцтва і калядаванне. Увесну спеўны гурт ходзіць без масак і касцюмаў. Узначальвае валачобнікаў запявала, які сам кіруе ходам абрада, падбірае песні. Такі чалавек мусіў мець добрую памяць, бо некаторыя валачобныя песні вельмі даўгія, налічваюць больш чым 200 радкоў! Дапамагаюць яму музыкі (скрыпачы, дудары, цымбалісты) і механоша. Валачобнікі спяваюць-прамаўляюць пад вокнамі, але ў хату, як калядоўшчыкі, не заходзяць. Валачобныя песні часта параўноўваюць з календаром, бо ў іх згадваюцца ўсе гадавыя святы і прымеркаваныя да пэўнай пары гаспадарчыя працы.

# Што такое васолы?

Пра тое, як валачобнічаюць у наш час, вам могуць распавесці не толькі бабулі-дзядулі, але і бацькі! Вось як гэта праходзіла у канцы 1990х гадоў у вёсцы Выгалавічы (Мядзельскі раён Мінскай вобласці), напісала ў сваім лісце Алена Спірыдон:

«Вялікдзень – самае любімае свята ў маім дзяцінстве. Удзень мы хадзілі проста па яйкі, а ўвечары ўжо па прысмакі. Вось да апошняга паходу мы рыхталіся загадзя. Гэта называлася “хадзіць спяваць васолы”. Васолы – песня, якую штогод дзеці перапісвалі ў сшытках і сур’ёзна рэпетавалі.

Мы з сябрамі збіраліся гуртом, як цямнела. Завітвалі ў кожны двор, бо прапусціць чыйсьці лічылася ганьбаю. Падыходзілі пад вокны, грукалі і гучна крычалі: «Сягоння дзень вясёлы, ці можна спець васолы?» І чакалі адказу. Калі яго не было, пыталіся зноў. Маглі паўтарыць і трэці раз. Калі ніхто не адгукаўся, то рушылі да наступнае хаты. А калі ў адказ чулася «можна!»”, то пачынаўся спеў:

Вялік нам дзень настаў,

Са славай з гробу засіяў,

Хрыстос уваскрос — нам вечны свет!..

Асабліва зухавата і гучна мы стараліся на прыпеве, каб уся вёска пачула. А гаспадары і іх госці выходзілі да нас на ганак і слухалі. Мы ж у сваю чаргу цікавалі за гаспадыняй, каб яна хутчэй вынесла нешта смачнае ў падарунак (булку, паску, яблыкі, цукеркі) ці нават грошы. І такіх кампаній хадзіла па нашай вёсцы да 5-7 за адзін вечар: дзеці, моладзь, дарослыя. Апошнія бралі з сабою гармонік ці баян. Мы, малыя, таксама часам да іх далучаліся».







Малюнак Вольгі Сударгінай

**ЗАДАННЕ:** прачытай, як называюцца часткі гэтага будынка, а пасля знайдзі іх на малюнку і расфарбуй.

# Касцёл Божага Цела (Фарны касцёл)



# Барочны цуд Радзівіла Сіроткі

На Вялікдзень хрысціяне абавязкова ходзяць на службу ў храм: касцёл, царкву, кірху і г.д. На ўрачыстай службе яны моляцца, дзеляцца радасцю з нагоды Уваскрасення Ісуса Хрыста, свенцяць велікодныя стравы.

У новай рубрыцы, прысвечанай дойлідству, вы можаце пазнаёміцца бліжэй з унікальным беларускім храмам – касцёлам Божага Цела.

Гэты прыгожы храм будаваўся ў 1589-1593 гг. італьянскім архітэктарам Джавані Бернардоні на грошы Мікалая Радзівіла Сіроткі.

З пункту гледжання архітэктуры – гэта другая цалкам барочная пабудова ў свеце. Барока — адметны стыль у еўрапейскім мастацтве. Яго асноўныя рысы: урачыстасць, кантраснасць, ускладненасць форм, пышны дэкор. Найбольш яскрава гэты стыль выявіў сябе менавіта ў будаўніцтве каталіцкіх храмаў.

Для шляхецкага роду Радзівілаў Касцёл Божага цела стаў сямейнай пахавальняй, дзе спачылі прадстаўнікі роду ад 1616 г. і да нашых дзён.

**ЗАДАННЕ:** Калі ты ўставіш словы з архітэктурнага слоўніка, то пасярэдзіне зможаш прачытаць назву горада, дзе знаходзіцца касцёл Божага цела.



**ЗАДАННЕ:** Прайдзі па лабірынту да храма.



# Знайдзі і размалюй




галава ката


луста хлеба


грыб


лапатачка


свечка


расчоска


зубная шчотка


кавалак пірага


цвік


марожанае


кручок


іголка


ражок


пярсцёнак


авечка


маладзік


кавалак піцы

# Вялікодныя знаходкі

знайдзі наступныя рэчы і размалюй:



1 пусты кошык

2 курыцы

3 трэснутых яйка

4 куранят у яйках

5 моркавак

6 яек са стужкай

7 трусікаў

8 яек у рысачку

9 кветак

10 яек у крапку



Знайдзі 16 яек



# Дайдзі да цэнтру!



# Пафарбаванае яечка –

сімвал свята, адзін з галоўных і самых распаўсюджаных падарункаў. З комікса на гэтай старонцы ты даведаешся, якімі бываюць велікодныя яйкі і як называюцца.



# Незвычайныя крашанкі з кропачкамі

На кулінарнай старонцы працягнем гаворку пра яйкі. Але не пра вядомыя ўсім курыныя, а пра перапяліныя.

Яечка перапёлкі важыць усяго 10-18 г, то бок яно недзе ў 4 разы меней за курынае, але змяшчае ў сабе ажно ў 2,5 разы болей вітамінаў! Шкарлупа ў перапяліных яйках больш тонкая і крохкая. Яна безумоўна трэсне, калі яйка ўпадзе, аднак яго змесціва можа і не выцекчы. Чаму так? Бо пад шкарлупою ёсць вельмі трывалая плёнка, якая не дае бялку «ўцячы».



На фота: перапёлка



На фота: перапяліныя яйкі

Сусветна вядомым гэты прадукт стаў дзякуючы даследванням японскіх навукоўцаў. Яны даказалі, наколькі важны ён для рацыёна дзяцей. Пастаяннае ўжыванне перапяліных яек спрыяе развіццю разумовых здольнасцей і выводзіць радыёнукліды з арганізма (што немалаважна для беларусаў, бо частка нашай тэрыторыі, забруджана радыяцыяй). Яйкі нават можна выкарыстоўваць для прафілактыкі і лекавання прастудных захворванняў. Аднак эфект ад гэтага будзе толькі пры ўмове, што прадукт трэба есці штодня і на працягу мінімум 2 тыдняў.

Пры ўсёй гэтай карысці перапяліных яек ужываць шмат не варта.

**Рэкамендуюць дзецям даваць штодня:**

| | |
|---|---|
| ад 1 да 3 год | 1-2 штукі |
| ад 3 да 10 | 3-4 шт |
| ад 10 да 18 | 4 шт |

Ну а цяпер давай паспрабуем самастойна пафарбаваць гэтыя цуда-яечкі. Гэта ж зусім нескладана!

Іх можна купіць амаль у любой вялікай краме ці гіпермаркеце. Бяры дзясятак, а можна і два. У якасці традыцыйнага велікоднага фарбавальніка ў нас будзе звычайны цыбульнік (шалупінне). Яго, як правіла, загадзя да свята назапашваюць мамы і бабулі. І яшчэ вазьмі якісьці стары рондаль, чайнік ці місу, бо пасля такой фарбы посуд адмыць бывае няпроста. Пачынаем!

1. Засыпаем цыбульнік у посуд, заліваем вадою і кіпяцім 20 хвілін. Пасля трэба ахладзіць адвар, даўшы пастаяць гадзіну.



2. Цяпер кладзем яйкі ў ваду і туды ж дабаўляем 2 сталовыя лыжкі алею. Ён надасць крашанкам бляск.

3. Даводзім ваду да кіпення і варым яйкі 5 хвілін.



4. Выключаем агонь, але яечкі няхай яшчэ паляжаць у вадзе, пакуль яна пастыне.

5. Даставай свае прыгожанькія чырвона-малінавыя крашанкі. Іх можна будзе падарыць на свята сваім блізкім і сябрам.



Цыбульны адвар не спяшайся выліваць. Яго можна паўторна выкарыстаць для фарбавання. А пасля ўжо паліць ім кветкі на клумбе ці градкі, бо гэта яшчэ і добрае ўгнаенне для глебы.

**Ты ўжо ведаеш, як можна зрабіць традыцыйную беларускую крашанку чырвонага колеру. Але таксама можна паэксперыментаваць і атрымаць прыгожыя яйкі іншых колераў, выкарыстоўваючы натуральныя фарбавальнікі. Давай даведаемся як:**




натуральныя фарбавальнікі

# Як перамагчы ў бітках?

Як любое народнае свята, Вялікдзень таксама не абыходзіўся і без вясёлых забавак. Пра іх нам расказала Вольга Сударгіна:

«Калі я была маленькай, то мы з бацькамі на кожны Вялікдзень прыязджалі да бабуляў у вёску Малыя Кашэўнікі *(Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці).*

У суботу, за дзень да свята, бабуля фарбавала курыныя яйкі лушпіннем цыбулі. А для нас, любімых унукаў, яна асобна фарбавала самыя маленькія гусіныя ці качыныя (яны былі памерам з вялікія курыныя, але шкарлупа ў іх была намнога крапчэйшая). Гэтыя «спец-яйкі» бабуля хавала ў кішэню фартуха і цішком выдавала нам.

Рабілася ўсё гэта для гульні ў біткі. Яна вельмі простая, але гульцы мусілі прытрымлівацца правілаў: біць «дзюбкай у дзюбку» альбо тупымі канцамі, каб разбіць чужое яйка і забраць яго. У гэтым нам якраз і дапамагалі бабуліны «сюрпрызы», якія былі мацнейшымі за астатнія яйкі.

Ячкі да біткоў рыхтуюцца: шукаюць, дзе дзюбка



Малюнак Вольгі Сударгінай



Фота: Юра Сідун

## А яшчэ мы гулялі ў пакатушкі

Для іх бралі звычайна дошку, пад адзін канец якой клалі камень. З яе мы і качалі ўніз па чарзе яйкі. Першае ставілі «на попку» перад дошкай, затым да яго зверху скатывалася другое, якое запускаў хтосьці з дзяцей. Гэтым яйкам трэба было «выбіць» ці дакрануцца да першага.

Калі гэта атрымалася, то забіраеш сабе абодва яйкі. Як не выйшла, то тваё яйка таксама застаецца там, куды прыкацілася. І цяпер яго можна было выбіваць, як і першае. Перамагаў той, хто выбіваў усе яйкі з зямлі. Зараз мне гэтая гульня падаецца падобнай на більярд”.



# Знайдзі наступныя словы:

Вялікдзень, вербніца, куліч, пісанка, кошык, нядзеля, свянцонка, яйка, паска, валачобніцтва

З літар, што засталіся, складзі слова.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| В | Е | З | Д | В | Е | С | В | Е |
| В | Л | Я | Я | Н | Р | Б | Я | Н |
| Я | Л | І | К | Я | Й | Н | І | Ц |
| Н | А | П | Д | Н | К | А | Ц | О |
| К | С | І | З | Е | І | А | А | Н |
| А | Б | Ы | К | Н | С | К | А | К |
| К | О | Ш | А | Ь | А | П | А | Ц |
| В | А | Л | А | Ч | О | Р | В | Т |
| Ч | І | Л | У | К | Б | Н | І | Ц |

## Разгадай рэбусы:

1



2



# Адказы на загадкі

## Знаходкі са старонак 8-9





## Крыжаванка са старонкі 7

Касцёл знаходзіцца ў горадзе Нясвіж.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ф | Р | А | Н | Т | О | Н | | | | | |
| | | | П | І | Л | Я | С | Т | А | Р | |
| | | Г | З | Ы | М | С | | | | | |
| | | | | | | В | Ы | Г | Л | Я | Д |
| | | | | | В | І | Л | Ь | Ч | Ы | К |
| | | К | А | П | Е | Ж | | | | | |

## Галаваломка на старонцы 15

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| В | Е | З | Д | В | Е | С | В | Е |
| В | Л | Я | Я | Н | Р | Б | Я | Н |
| Я | Л | І | К | Я | Й | Н | І | Ц |
| Н | А | П | Д | Н | К | А | Ц | О |
| К | С | І | З | Е | І | А | А | Н |
| А | Б | Ы | К | Н | С | К | А | К |
| К | О | Ш | А | Ь | А | П | А | Ц |
| В | А | Л | А | Ч | О | Р | В | Т |
| Ч | І | Л | У | К | Б | Н | І | Ц |

Схванае слова: Вербніца

**Рэбусы на старонцы 15:**
пісанкі, красавік

Комікс.
Кубкі ўкраў Ясь. Ён схлусіў Піліпу і Мары.
Калі б Ясь сапраўды ўдзельнічаў у 10.29 у забегу на 2000 м, то ён мусіў бы стартаваць у 10.15. Але, па яго ных словах, ён быў у гэты час на спаборніцтве па скоках у даўжыню.




Стой! Трымайце злодзея!
Халера! Зладзюжка выслізнуў з-пад самага носу!
Спадар Кухта! Там...
Ганна, мне трэба сканцэнтравацца. Бегуны хутка перасякуць фінішную лінію
Неўзабаве пасля гэтага
Спадар Кухта! Тут...
Няма часу! Наступныя атлеты мусяць стартаваць!
Крыху пазней
Спадар Кух...
Вось жа назола! Няўжо не бачыш, што я заняты. Мне трэба занатаваць, хто колькі прабег!
Ну добра, тады пазней.
Незадоўга перад узнагароджван-нем
Кубкі ўкралі!
Якраз пра гэта я і хацела вам паведаміць увесь гэты час! Я бачыла, як укралі кубкі. Гэта здарылася дакладна ў 10.29
HMPF
Злодзей быў абуты ў новыя жоўтыя красоўкі. Я спрабавала яго дагнаць, але марна!
Ну няўжо гэта мусіла здарыцца якраз цяпер! Праз 45 хвілін пачнецца трансляцыя чэмпіянату свету па футболе!
А яшчэ ж трэба падлічыць вынікі спаборніцтваў.
Зусім мала часу! Перанясу ўзнагароджанне на заўтра
ШТО?!
Назва для артыкулу: **Спартыўны скандал!** Настаўнік ігнаруе сведку!


Да заўтра злачынца знішчыць усе сляды.
Значыць, мы мусім разблытаць гэтую справу самі! Хадзем, Піліп! Урэшце, толькі двое вучняў носяць новыя жоўтыя красоўкі: Ясь і Данік.
А ў гэты час
У 10.29?
Я якраз прабег 2000 метраў.
Ты настолькі ўраўнены?
Вядома! Пакуль я бег, я ўвесь час пазіраў на гадзіннік. У мяне, дарэчы, новы гадзіннік. Акурат у 10.29 мне вельмі закалола ў баку.
А што ты рабіў да гэтага?
Я праспаў і прыйшоў сюды толькі а 9.20
Я адразу ж пачаў спаборніцтвы па кіданні ядра. Для кожнай з 3х спроб я вымушаны быў стаяць у чарзе 10 хвілін! Потым кідаць ядро, вымяраць даўжыню. Для гэтага на кожную спробу патрэбна па адной хвіліне.
Затым 15 хвілін і паўза, пасля скокі ў даўжыню. На кожную спробу па 3 хвіліны чакання ў чарзе. І па адной хвіліне на кожны з трох скокаў.
А потым?
Адразу ж пасля я прабег 2000 метраў.
А зараз мне трэба ісці, бо я вельмі стаміўся і хачу піць!
Праз некаторы час:
Данік, мы расследваем, хто ўкраў кубкі. Дзе ты быў у 10.29?
KLICK
Хм, дайце падумаць.
У 10.15 я скончыў усе спаборніцтвы.
Перад гэтым я скочыў у даўжыню. Усё гэта заняла 28 хвілін.
СКОК
Да таго я адпачываў 16 хвілін. А яшчэ раней я быў ля спадара Бабровіча і ўдзельнічаў у кіданні ядра. Ці ёсць яшчэ пытанні?


Праз некалькі хвілін
Пошук злачынцы стаў цэлым марафонам. Але праўды мы так і не даведаліся.
Нехта хлусіць! А нам нестае доказаў.
Хутка пачнецца ўзнагароджванне пераможцаў. А калі дакладна?
Гэта напісана на дошцы.
Адказныя за правядзенне спаборніцтваў:
Спадар Кухта – забег на 2000 метраў
Спадарыня Шмідт – забег на 50 метраў
Спадарыня Андантэ – скокі ў даўжыню
Спадар Фазэль – кіданне ядра.
Забег на 2000 метраў пачынаецца а 8.35 і адбудзецца кожныя 20 хвілін. Забег заканчваецца а 11.30
З 13 гадзін у актавай зале школы пачнецца трансляцыя чэмпіянату свету на футболе
Знойдзеныя рэчы прынасце спадарыні Андантэ
Узнагароджванне пераможцаў адбудзецца пасля спаборніцтваў на стадыёне школы.
Удзел абавязковы!
І хаця тут не пазначаны дакладны час узнагароджвання...
... але якраз тут і хаваецца адказ, хто скраў кубкі.
Чарговая дэдэктыўная гісторыя раскрыта! Назва для артыкулу: Рэпарцёры вызначыліся неймавернай вынослівасцю і вярнулі скрадзеныя кубкі!
Ну а вы здагадаліся, хто ж апынуўся злодзеем? Калі не, то глядзі старонку 16.



Тэма наступнага нумару:
## ДРЭВЫ

Рэдактары:
Наталка і Лёля.

Шчырая падзяка за дапамогу:

Юліі (вёрстка)
Марыне (знаходкі)
Сашы і Вользе (за ілюстрацыі)

На тытульнай старонцы
Акулік Аляксей
аўтар фота Юлія Янюк-Казлоўская

Лісты можна дасылаць на адрас:
chasopis.zheuzhik@gmail.com